# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 45 (715) 9 ЛІСТАПАДА 1969 г. ЦАНА 60 гр.

## БГКТ

### ПЛЕНУМ ГП

21 лістапада (у пятніцу) адбудзецца другое пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ на тэму «Задачы БГКТ у святле пастаноў VI з'езда Беларускага таварыства».

### КАНТАКТЫ З ПРАФСАЮЗАМІ

25 кастрычніка сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк правёў сустрэчу з членам экзекутывы Ваяводскага камітэта ПАРП — старшынёй Ваяводскай камісіі прафесіянальных саюзаў — Дзімітрам Карповічам. Сакратар ГП паінфармаваў таварыша Карповіча аб працы ГП і аб далейшых напрамках дзейнасці БГКТ. Сустрэча закончылася дагаворам аб тым, што адбудзецца супольнае пасяджэнне кіраўніцтва Ваяводскай камісіі прафсаюзаў з прэзідыумам ГП БГКТ, на якім будуць разгледжаны справы цеснага супрацоўніцтва.

### АБ КОНКУРСЕ НА САВЕЦКУЮ ПЕСНЮ

У 1970 годзе ўжо дзевяты раз адбудзецца ў Зялёнай Гужэ агульнапольскі конкурс на савецкую песню. Галоўным арганізатарам яго з'яўляецца Таварыства польска-савецкай дружбы. Кіраўніцтва ГП БГКТ пастанавіла, што ў асяроддзі свайго дзеяння будзе намагацца, каб у рамках гэтага конкурсу як найбольш арганізаваць людзей да падрыхтоўкі на гэты конкурс беларускай савецкай песні. І так будзем прапагаваць беларускую песню. Будзем намагацца, каб у беларускіх асяроддзях было як найбольш ахвотных прыступіць да конкурсу на савецкую беларускую песню. Мэта IX агульнапольскага конкурсу на савецкую песню такая: каб савецкая (а ў нашым выпадку і савецкая беларуская) песня была ўведзена ў святліцы, клубы, дамы культуры, школы, у рэпертуар аматарскіх калектываў.

Конкурс з'яўляецца трохступенным: 1) агляды ў асяроддзях, 2) павятовыя агляды, 3) ваяводскі агляд. Тыя ўдзельнікі конкурсу, якія будуць выконваць **беларускую песню,** замест ваяводскага агляду будуць кваліфікаваны ў Галоўным праўленні БГКТ і найлепшыя будуць накіраваны ў Зялёную Гуру. Такім чынам перад аддзеламі і гурткамі нашага таварыства ў гэтай галіне стаяць нялёгкія заданні, каб як найбольш асоб заахвоціць да выконвання беларускай песні. Правілы IX агульнапольскага конкурсу на савецкую песню маюць усе аддзелы Беларускага таварыства.

### ДРЭННА З ЧЛЕНСКІМІ СКЛАДЧЫНАМІ

У кожнай арганізацыі адным з асноўных абавязкаў кожнага члена з'яўляецца рэгулярнае аплочванне членскіх складчын. У Беларускім таварыстве гадавая членская складчына зусім невялікая, бо толькі 12 зл. Выходзіць, гэта толькі адну залатоўку на месяц. Але, на жаль, і гэтая маленькая сума не аплочваецца тэрмінова. Да 25 кастрычніка нават запланаваная сума ў аплочванні членскіх складчын у нашым Таварыстве рэалізавана толькі ў 56 працэнтах. У сувязі з гэтым праўленні паасобных аддзелаў, іх прэзідыумы на сваіх пасяджэннях павінны абмеркаваць справу рэгулярнага аплочвання і ліквідацыю недабораў у аплочванні складчын.

### КАДРАВЫЯ СПРАВЫ АДДЗЕЛА

24 кастрычніка адбылося пленарнае пасяджэнне гарадскога праўлення аддзела ў Беластоку, на якім асноўным пунктам была абмяркоўка кадравых спраў аддзела. Шмат крытычных заўваг было выказана ў адрас старшыні аддзела Кастуся Масальскага. У пасяджэнні ўзялі ўдзел старшыня і сакратар ГП М. Хмялеўскі і Я. Зенюк. (мс)




**Дні савецкага фільма пачаліся сёлета ў Беластоку ў часе Дэкады культуры РСФСР 23 кастрычніка і працягвацца будуць да 9 лістапада. На здымку кіно «Покуй» у Беластоку ў час Дзён. На стар. 3 фотарэпартаж з Дэкады культуры РСФСР на Беласточчыне.**
**Фота Цаф — Сянько**

Напрыклад, у Дубічах Царкоўных




Па ўсёй краіне зараз ідзе агульнанароднае змаганне за павышэнне ўраджайнасці зямлі. Зямля — скарб наш агульны. Кожны яе кавалачак павінен пахнуць хлебам, бульбай, сенам...

Часта аднак бывае інакш. Часам не хлебам, не бульбай, не сенам квітнее зямля наша, а чортапалохам, жоўтай рэдзюхай і горкім шчаўём. Асабліва зямля дзяржаўная, прыналежная Дзяржаўнаму фонду зямлі, «зямля — сіротка», для якой выпадковыя ўладальнікі хутчэй з'яўляюцца мачахай, чымсці роднай мамай.

Нашы мясцовыя ўлады (хвала ім за гэта!) прабуюць розных спосабаў, каб загаспадараваць «зямлю-сіротку». «Генеральную» палітыку ў гэтай галіне выпрацавала яшчэ ў 1963 годзе супольнае пленарнае пасяджэнне Ваяводскіх камітэтаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі і Аб'яднанага стронніцтва людовага. Было тады пастаноўлена, што першы ратунак для гэтай безгаспадарскай зямлі — пэгээрызацыя. Дык узніклі ПГР-ы ў Грыгораўцах, Навасадах і Тафілаўцах. Між Парцавам а Бельскам скамасавана нядаўна амаль тысячу гектараў такой жа зямлі. Незадоўга будзе там сельскагаспадарчая школа.

Усяго ж гэтага, на жаль, мала. Што рабіць з дзялянкамі дзяржаўнай зямлі, плошча якіх невялікая? Ды зямля гэтая раздробленая на палоскі, загублена між сялянскімі хутарамі. Немагчыма, каб у такіх умовах узнік ПГР. Можна аддаць гэтую зямлю ў арэнду паасобным гаспадарам. Шматгадовы вопыт даказаў аднак, што гэта не зусім добрая развязка. Гаспадар не адчувае належнай прыхільнасці да гэтай зямлі. Для яго яна «чужая».

Дарогу і развязку праблемы паказаў сельскагаспадарчы гурток у Дубічах Царкоўных на Гайнаўшчыне. Гэты гурток быў адным з тых першых, якія зацікавіліся дзяржаўнай зямлёй.

Цікавая гэта вёска і цікавыя там жывуць людзі. Гаспадароў у Дубічах Царкоўных — 85, а членаў сельскагаспадарчага гуртка — звыш 100. Значыць, у некаторых хатах жыве па двух і больш членаў гуртка. Мясцовы выдатны грамадскі дзеяч **Мікалай Чыквін** успамінае:

— Гурток наш заснавалі мы ў 1962 годзе. Сабралося нас тады 12 чалавек, склаліся па 1000 зл. і ўлады прызналі нам 2 трактары. Людзі ў вёсцы ўзнялі шум: што вы, зноў нам хочаце рабіць тут «калхоз!» — крычалі. — А цяпер...

Цяпер у Дубічах 7 трактараў і шмат іншых сельскагаспадарчых машын. Нават пасля кароткай пабыўкі ў вёсцы адчуваецца жывое бурленне сучаснасці.

У 1964 годзе дубіцкія гуртко́ўцы заняліся дзяржаўнай зямлёй. Назбіралася яе ў іх шмат — звыш 100 гектараў. Але

Працяг на стар. 4




Якіхсьці 60 гадоў таму назад ніхто на шырокім свеце не спадзяваўся, што сярод беларусаў могуць знайсціся рэвалюцыянеры, змагары, барацьбіты. У розных этнаграфічных апісаннях прадстаўлялася беларусаў, як люд спакойны, пакорлівы, ціхі, слепа прывязаны да мясцовай традыцыі. А тым часам прайшло некалькі дзесяткаў гадоў і ў міжваеннай Польшчы беларусы, ціхія да нядаўна, спакойныя сяляне стаюцца адным з найбольш рэвалюцыйных элементаў краіны.

Адкуль узяўся такі гвалтоўны пераварот у эмоцыях і светапоглядзе беларускага сялянства? Як кажуць, у кожным няшчасці ёсць элемент шчасця. Няшчасцем у гісторыі беларускага люду была І сусветная вайна. Загад царскіх улад быў просты, а адначасова страшны ў сваіх паслядоўнасцях: адступаючыя рускія войскі павінны пакінуць за сабою краіну пустую і бязлюдную. Насельніцтва Заходняй Беларусі і беларусаў Беласточчыны вывезена ў глыб Расіі.

Гэта, зразумела, няшчасце. Нашыя бацькі ды дзяды прайшлі такім чынам мора пакутаў. І былі б гэта адны толькі пакуты, калі б не ўспыхнула Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя. Рэвалюцыя гвалтоўна змяніла лёс ваенных бежанцаў уключаючы іх у вёрткую плынь рэвалюцыйных падзей. Рэвалюцыйны парыў змяніў карэнным чынам псіхіку беларускіх сялян уплываючы рашучым чынам на далейшы лёс беларускага люду.

Да рэвалюцыі характэрнай рысай беларускага сялянства была іх безагаворачная, бескрытычная прывязанасць да ўсяго старога, іх неахвотнасць засвойваць новыя думкі, погляды, новыя спосабы жыцця і працы. Гэтая рыса характэрная не толькі беларусам, але і ўсім іншым грамадскасцям на адпаведна нізкім узроўні эканамічнага і грамадскага жыцця, «Следам за дзедам» — такі быў асноўны дэвіз беларускага селяніна.

Рэвалюцыя ў многім разбурыла старую сялянскую традыцыю. Разбурыла яна перш за ўсё традыцыю сялянскай пакоры перад усялякай знешняй уладай. Вучыла сялянскія масы іх чалавечай годнасці — шанаваць гэтую годнасць і змагацца за яе. Вучыла глядзець на свет зусім па-новаму, паказвала наяўна, што наперакор старым меркаванням — бурэнне старых форм грамадскага жыцця не вядзе да «канца свету», а да новых больш дасканалых форм.

Беларусы Беласточчыны ў Расіі дзялілі лёс людзей вырваных са сваёй айчыны, без кавалка хлеба, нікому не патрэбных, бяздомных. Рэвалюцыя змяніла іх ролю. Паклікала іх да вялікага задання змагароў, барацьбітоў новай вялікай справы, да звання салдатаў рэвалюцыі. Амаль уся бежанская моладзь уключылася ў плынь рэвалюцыйных падзей, уносячы значны ўклад у перамогу Кастрычніка. Многія са старых жыхароў сённяшняй Беласточчыны атрымалі за сваю дзейнасць высокія адзначэнні ад рэвалюцыйных улад, многія з іх выконвалі высокія пасты і адыгрывалі не малую ролю ў рэвалюцыйных падзеях.

Калі ў пачатку дваццатых гадоў наступіў масавы паварот былых бежанцаў на сваю радзіму, буржуазныя польскія ўлады хацелі бачыць у іх зноў гэтых жа пакорных уладзе, ціхіх, спакойных сялян. Але сяляне гэтыя, а асабліва малады элемент — жылі ўжо новымі ідэямі. Ідэямі грамадскай рэва-

Працяг на стар. 4

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### КАНФЕРЭНЦЫЯ НАДЗЕІ

30 і 31 кастрычніка 1969 года ў Празе адбылася нарада міністраў замежных спраў дзяржаў — удзельніц Варшаўскага дагавору. Міністры разглядалі справу ўмацавання еўрапейскай бяспекі і развіцця мірнага супрацоўніцтва. Падтрымліваюць яны, — гаворыцца ў заяве нарады, — пастановы Будапешцкага зварота да ўсіх еўрапейскіх дзяржаў з 17.III.1969 г.

Еўрапейская канферэнцыя на тэму бяспекі і супрацоўніцтва магла б адбыцца ў першай палове 1970 года.

### ВАЙНА

В'етнамскі народ працягвае сваю гераічную барацьбу з агрэсарам. Толькі ў месяцы кастрычніку г.г. в'етнамскія патрыёты 450 разоў атакавалі 300 амерыканскіх ваенных аб'ектаў у Паўднёвым В'етнаме. У гэтым месяцы выведзена з бою 1500 амерыканскіх салдат.

### НОВЫ ТОН

Новы бонскі канцлер В. Брандт у сваім экспазе перш за ўсё заняўся ўнутранай палітыкай прысвечваючы ёй 3/4 сваёй прамовы. Назіральнікаў цікавіла найбольш тое, што скажа ён аб замежнай палітыцы, а перш за ўсё аб усходняй. Ітак, трэба падкрэсліць, што ў Бон загучэлі ўпершыню новыя тоны.

**Па-першае,** у адносінах да Польшчы новы канцлер сцвердзіў, што яго ўрад накіруе да польскага ўрада «прапанову адносна правядзення размоў, у якіх акрэсліць свае адносіны да выказвання Уладзіслава Гамулкі з 17 мая 1967 года». **Па-другое,** яго ўрад прывязвае вялікую ўвагу да падпісання з сацыялістычнымі краінамі, у тым ліку і з ГДР, дагавораў аб непрымяненні сілы. **Па-трэцяе,** урад ФРГ мяркуе падпісаць дагавор аб нераспаўсюджванні тэрмаядзернай зброі. **Па-чацвёртае,** бонскі ўрад лічыць, што канферэнцыя на тэму еўрапейскай бяспекі можа быць важным крокам у нармалізацыі суадносін у Еўропе.

### НАСЕЛЬНІЦТВА...

...Албаніі, Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Манголіі, Польшчы, Румыніі, СССР і Чэхаславакіі ў мінулым годзе склала лік **434 мільёны** чалавек, з чаго 69,3 працэнта прыпадала на Савецкі Саюз. У 1980 годзе прадбачваецца ўзрост насельніцтва да **488 мільёнаў.** У СССР мае быць **271 мільён,** Польшчы — **36,5 мільёна**, Румыніі — **22 мільёны,** а найменш людная краінай астанецца Манголія **1,7 мільёна чалавек.**

Наймаладзейшай краінай з успомненых ёсць Манголія: **43,2** працэнта яе насельніцтва не закончыла 15 год жыцця; з еўрапейскіх краін СССР — **31,6** працэнтаў і Польшча —**31,0** працэнтаў. У ГДР **15,1** працэнтаў насельніцтва налічвае 65 год жыцця (напр. у Польшчы толькі 7,4 працэнта).

Найвялікшы працэнт насельніцтва ў прадукцыйным узросце мае Румынія амаль 60 працэнтаў агулу насельніцтва, а найменшы, з еўрапейскіх краін, ГДР — **48,8** працэнтаў.

Вышэй указаныя даныя адносяцца да сацыялістычных краін удзельніц Рады Эканамічнай Узаемадапамогі. У наступных нумарах чытайце аб нацыянальным даходзе і аб заработках. **А. К.**



## БССР

### БЕЛАРУСКАЙ

Узаемавыгадныя эканамічныя сувязі паміж Беларускай ССР і Чэхаславакіяй набываюць усё большае развіццё. Машынабудаўнікі завода «Гомсельмаш» вырабілі і адправілі ў Чэхаславакію вялікую партыю сіласаўборачных камбайнаў. На многіх чэхаславацкіх заводах устаноўлена станочнае абсталяванне, выраблена на беларускіх прадпрыемствах.

Чэхаславакія з'яўляецца буйным імпартэрам беларускіх электронна-вылічальных машын, наручных гадзіннікаў, фотаапаратаў, падшыпнікаў, электра- і радыёвымяральных прыбораў. Закупляе таксама канавакапальнікі, ільновалакно, калійныя ўгнаенні, запасовыя часткі да трактараў і аўтамабіляў, мэблю і іншыя тавары.

### МІЖНАРОДНАЙ

Газеты публікуюць выступленне міністра замежных спраў Беларускай ССР А. Гурыновіча ў Першым камітэце XXIV сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытанню аб умацаванні міжнароднай бяспекі.

«З першых дзён існавання Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Беларуская ССР пастаянна дабіваецца ажыццяўлення ўсімі дзяржавамі высокіх мэт і прынцыпаў Статута ААН, змагаецца за іх развіццё і канкрэтызацыю, паслядоўна выступае за мір і міжнародную бяспеку, за вызваленне народаў ад каланіяльнага прыгнёту, за сацыяльны і эканамічны прагрэс. Яна і надалей будзе рабіць усё, што ад яе залежыць, каб ператварыць Арганізацыю Аб'яднаных Нацый у дзейсны інструмент міру і міжнароднага супрацоўніцтва», — заявіў беларускі міністр.

### БУЙНЕЙШАЕ

Буйнейшае ў Беларусі месцанараджэнне цэментавай сыравіны выяўлена геолагамі рэспублікі ў Касцюковіцкім раёне. Крэйда і мергель, якія тут у вялікай колькасці знаходзяцца на даволі невялікіх глыбінях, зусім даступныя. Разведаны паклады могуць забяспечыць патрэбы існуючага Крычаўскага цэментавага завода і новага прадпрыемства магутнасцю ў два мільёны тон цэменту ў год на многія дзесяцігоддзі.

Яшчэ адно месцанараджэнне сыравіны для будаўнічых матэрыялаў геолагі разведалі на паўночным усходзе рэспублікі ў раёне Новалукомля. Тут знойдзены керамічныя гліны. Плануецца будаўніцтва камбіната.

### СХОД

У Мінску адбыўся сход савета Беларускага кааператыўнага саюза. Кааператары рэспублікі абмеркавалі пытанне аб стане і мерах паляпшэння кіраўніцтва кааператыўнымі арганізацыямі і прадпрыемствамі рэспублікі.

### МІНСКАГА

Пленум Мінскага гарадскога камітэта КПБ разгледзеў пытанне аб рабоце партыйных арганізацый у галіне павышэння эфектыўнасці працы. **(С.Я.)**



## ПОЛЬШЧА

### ЗАКАНЧЭННЕ

Надзвычай урачысты характар мела заканчэнне Дзён культуры РСФСР. На ўрачыстым канцэрце ў Вялікім тэатры ў Варшаве выступіла 600 савецкіх артыстаў. Спектакль аглядалі прадстаўнікі найвышэйшых польскіх партыйных і дзяржаўных улад з Уладзіславам Гамулкам, Мар'янам Спыхальскім і Юзэфам Цыранкевічам на чале. Перад канцэртам з прамовай выступіў славуты савецкі мастак Міхаіл Ульянаў дзякуючы польскаму грамадству за сардэчны прыём, які аказала яно прадстаўнікам савецкай культуры.

З аказіі заканчэння Дзён у Варшаве адбылася прэсканферэнцыя з удзелам урадавай дэлегацыі РСФСР з намеснікам старшыні Савета Міністраў РСФСР тав. Вячэславам Качэмасавым на чале. Тлумна зграмаджаныя журналісты друку, радыё, польскай і савецкай тэлевізіі з вялікім зацікаўленнем выслухалі ўражанняў, якія атрымалі савецкія госці ў час 10-дзённай пабыўкі ў нашай краіне. Падзяліўся імі ад імя ўсяе дэлегацыі тав. Вячэслаў Качэмасаў. З асаблівай прыемнасцю ўспамінаў ён сустрэчы з польскім грамадствам. «**Калі ўбачылі мы,** — сказаў тав. Качэмасаў, — **варту маладых людзей у гуральскіх народных уборах пры помніку Леніна ў Пароніне, падумалі, як глыбока пранікаюць ленінскія ідэі дружбы народаў».**

### БУЛЬБА

У гэтым годзе наступілі цяжкасці ў забеспячэнні гарадскога насельніцтва ў бульбу. Склалася на гэта шэраг прычын: спозненыя перыяд збірання бульбы, а ў сувязі з тым скарочаны перыяд скупкі, меншы чымсьці ў папярэдніх гадах ураджай і цяжкасці з забеспячэннем транспарту.

### «НІЖ»

Дэмографы спадзяюцца, што гэты год будзе годам найніжэйшага ў пасляваенным перыядзе натуральнага прыросту. Асягне ён не больш чымсьці 8,3 працэнта. Насельніцтва Польшчы перакрочыла ўжо 32,5 мільёна асоб, у сярэднім на адзін квадратны кіламетр выпадае 104 асобы. З увагі на колькасць насельніцтва займаем 7 месца ў Еўропе, а з увагі на гушчыню засялення — 23. Найбольшым горадам Польшчы з'яўляецца Варшава — 1.279.000 жыхароў, найменшым Лэндычэк у Кашалінскім ваяводстве — 535 жыхароў. Прадбачваецца, што ў 1985 годзе насельніцтва краіны асягне 37,2 мільёна асоб, а ў 2000 годзе — 39,1 млн. асоб.

### ТУРЫСТЫКА

У Варшаве адбылася XI канферэнцыя турыстычных арганізацый сацыялістычных краін, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі турыстычных арганізацый Балгарыі, Чэхаславакіі, ГДР, Румыніі, Венгрыі, Савецкага Саюза і Польшчы. Удзельнікі канферэнцыі перадыскутавалі ідэйна-выхаваўчую ролю турыстыкі ў развіцці сацыялістычнага грамадства, арганізаванне масавага адпачынку пры скарочаным перыядзе працы, а таксама праблемы міжнароднага супрацоўніцтва турыстычных арганізацый. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ПАРТЫЙНАЯ АЦЭНКА

Кіраўніцтва Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку нядаўна наладзіла пасяджэнні ў трох буйных прадпрыемствах цяжкай прамысловасці, якія існуюць у Беластоцкім ваяводстве. Гэтыя пасяджэнні былі прысвечаны ацэнцы падрыхтоўкі прадукцыйных планаў на 1971—1975 гады. Абавязак падрыхтоўкі такіх планаў у прадпрыемствах вынікае з пастаноў II пленума ЦК ПАРП. Пасля пасяджэнняў партыйнае кіраўніцтва сцвердзіла, што падрыхтоўка гэтых планаў праходзіла правідлова, у атмасферы грамадскай актыўнасці, што наглядалася зацікаўленне гэтымі планамі сярод рабочых калектываў.

### УЗНАГАРОДЫ

Нашы чытачы хаця б з «Нівы» памятаюць конкурс «Вёска бліжэй тэатра». Нядаўна цэнтральная конкурсная камісія падвяла вынікі гэтага конкурсу. Камісія высока ацаніла дасягненні беластоцкіх тэатраў і паасобных асоб дзеячаў тэатральнага прафесіянальнага і аматарскага руху. Беластоцкі дзяржаўны драматычны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі атрымаў узнагароду міністра культуры і мастацтва. Узнагароджанымі былі таксама дом культуры чыгуначнікаў у Беластоку, грамадскі цэнтр культуры ў Крыпне, клуб селяніна ў Райгродзе і іншыя. Віншуем і адначасова падаем да ведама, што конкурс «Вёска бліжэй тэатра» прадаўжаецца.

### КАНЦЭРТ

Беластоцкі народны аматарскі калектыў «Курпе Зелёнэ» 3 лістапада г.г. выступіў з канцэртам у тэатры імя Вянгеркі ў Беластоку. Песні і танцы ў выкананні калектыву падабаліся гледачам.

### ДЗЕНЬ ПАМІНАННЯ ПАМЁРШЫХ

Гэты дзень мае багатую гістарычную традыцыю. Выводзіцца ён яшчэ з праслаўянскага культу памёршых продкаў. У гэтым годзе на дзень памінання памёршых людзі запальвалі свечкі на магілах не толькі сваіх блізкіх. Уганаравалі яны таксама памяць салдат і барацьбітоў за народную ўладу.

### МАЛАКО

Мінулае лета было вельмі неспрыяльнае для жывёлагадоўцаў. Не гледзячы на тое пастаўка малака праходзіла паспяхова. Малочныя спулдзельні Беластоцкага ваяводства план скупкі за мінулыя тры кварталы выканалі ў 99 працэнтах. Прадбачваюць яны, што гадавы план скупкі будзе перавыканаты.

### ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ

Жыхары вёскі Курашэва ў Гайнаўскім павеце пры выдатнай дапамозе грамадскага чыну разбудавалі школу для сваіх дзяцей. У арганізацыі гэтага мерапрыемства асабліва адзначыўся кіраўнік школы Э. Бай.

### БУРА

Бура, якая ў мінулым тыдні прайшла праз Беласточчыну, нарабіла шмат шкоды. У Белавежскай пушчы паламала яна старыя дрэвы, асабліва ля шашы Гайнаўка—Белавежа і пад вёскай Тэраміскі.





**Niedziela, 9.XI.**

9.10 Program dnia. 9.15 TV Kurs Rolniczy: „Siano i kiszonki w żywieniu zwierząt". 9.50 „Przypominamy, radzimy". 10.00 „Dom wielkiego pisarza" — film radz. 10.20 Dla młodych widzów: „Dźwięczy pieśń wkoło" (Bratysława). 11.00 „Kronika 50-lecia Kraju Rad". 11.30 „Bawcie się z nami". 11.55 Sprawozdanie z eliminacji do piłkarskich Mistrzostw Świata. Mecz Polska — Bułgaria. 13.50 Dziennik. 14.05 Dla dzieci: — film. 14.30 „Przemiany". 15.00 „Cecylia — lekarka wiejska" — film. 15.25 Dla dzieci T. Sliwiak — „Kabaret z papugą" („Jesień... jesień...") 16.00 „Tele-Zgadula": „25 lat filmu polskiego". 17.00 PKF. 17.15 „Pórkiem i węglem". 17.40 „Nie ma tramwaju na Lime Street" — widowisko TV Angielskiej. 18.35 „Sylwetka karykaturzysty" — Karol Ferster. 18.55 „Czas słońca i róż" — film czechosł. (śpiewa Karel Got). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Czterej taksówkarze" — film fab. wł. 21.45 „Czarujący Giulio" Garinci i Giovanni. 22.45 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 10.XI.**

14.25 i 22.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.35 „Echo stadionu". 17.50 „Cywilizacja na wodzie" — rep. film. z Egiptu. 18.10 „Kino Filmów Anonimowych". 18.40 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV W. Kohlhaase i R. Zimmer — „Rybka we czworo". 21.25 „Turyści i towary". 21.55 Dziennik.

**Wtorek, 11.XI.**

9.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — Plautus „Żołnierz Samochwał". 10.30 „Grona gniewu" — film fab. USA. 12.35 „Wybieramy zawód". 12.55 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Podstawowe wiadomości o budowie i czynnościach życiowych zwierząt". 13.25 Przerwa. 14.25 i 22.50 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 „Lekcja polskiego" — film dok. pol. 17.05 Telewizyjny Ekran Młodych. 18.45 „Poligon". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Kino Interesujących Filmów: „Grona gniewu" — film fab. USA. 22.05 „Między pomysłem a przemysłem". 22.30 Dziennik.

**Środa, 12.XI.**

9.00 „Koralia" — film („Ścigany"). 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Elektrostatyka". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Wróg metali". 11.25 Przerwa. 14.25 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.30 Program dnia. 16.40 Dziennik. 17.50 Dla dzieci: „Drugi wieczór filmów". 17.25 Sprawozdanie z międzynarodowego meczu piłki nożnej Górnik (Zabrze) — Glasgow Rangers (Anglia) w ramach II rundy Pucharu Zdobywców Pucharów (II połowa meczu). 18.15 Magazyn ITP. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.40 „Dialogi historyczne". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Sprawozdanie z międzynarodowego meczu piłki nożnej: Legia (Warszawa) — St. Etinne (mistrz Francji) w ramach II rundy rozgrywek pucharów o Klubowy Puchar Europy (II połowa meczu). 20.50 „Giełda piosenki". 21.20 „Światowid". 21.50 PKF. 22.00 „Koralia" — film („Ścigany"). 22.50 Dziennik.

**Czwartek 13.XI.**

8.15 „Matematyka w szkole". „Ciągłość transformacji i pojęcie krzywej". 8.45 Przerwa. 9.00 Dla szkół (kl. II lic.) Język polski — „Goethe — Byron — Puszkin". 9.35 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. V) Język polski — „Jan Matejko". 10.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Kultura hellenistyczna". 12.25 Przerwa. 12.45 i 13.55 Mechanizacja Rolnictwa: „Układ smarowania silników spalinowych". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.20 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.55 TV Kurier Kielecki. 18.40 Koncert muzyki rosyjskiej i radzieckiej w wyk. solistów i orkiestry Polskiego Radia i Telewizji w Łodzi. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Teatr KOBRA: B. Veiller — „Proces Mary Bugan". 21.00 „Refleksje". 21.30 „Księżyc" — film TVP. 22.00 Dziennik.

**Piątek, 14.XI.**

10.00 „Cztery dni do nieskończoności" — film fab. rum. 11.35 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie plastyczne — „Stanisław Wyspiański". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Budujemy aparat radiowy". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Aula" — sesja czwarta. 17.30 Koncert solistów Państw. Akademickiego Teatru Opery i Baletu Łotewskiej Socjalistycznej Republiki Radzieckiej (Ryga). 18.30 „Nie tylko dla pań". 18.50 Wszechnica TV: „Nasi uczeni". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Brat Jerzy" — film TVP („Przygody pana Michała") odc. I. 20.35 „Horyzonty". 21.05 Teatr TV: W. Iwanow — „Pociąg pancerny". 22.35 Dziennik.

**Sobota, 15.XI.**

8.05 „Za mną kanalie" — film fab. NRD. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Syberia". 10.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Jamochłony". 12.25 Przerwa. 14.10 Program dnia. 14.15 TV Kurs Rolniczy: „Susz ziemniaczany w żywieniu zwierząt". 14.50 Program tygodnia. 15.10 Przerwa. 16.30 Program dnia. 16.35 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „X trójmecz harcerski". 17.50 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.20 Koncert artystów meksykańskich. 18.40 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Dzień się budzi" — program „Tele-Variete". 21.20 Dziennik TV i Wiadomości sportowe. 21.45 „Za mną kanalie" — film fab. NRD.





**Piątek, 7 listopada**

7.30 Moskwa. Plac Czerwoy. Defilada. 8.50 Mińsk. Plac Centralny. Defilada. 12.00 „Kronika półwiecza". Rok 1917. TV film dok. 13.00 Hokej. CSKA — SKA (Leningrad). 15.30 Film fab. 16.50 Nowiny. 17.00 „Przy kominku". 18.30 Reportaż z defilady. 19.30 Film fab. 21.10 Nowiny. 21.15 Koncert świąteczny. 22.20 Nowiny.

**Sobota, 8 listopada**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 Filmy animowane dla dzieci. 9.00 Świąteczny koncert pionierski. 9.40 Almanach TV. 10.35 Koncert artystów Estrady Leningradzkiej. 11.15 „Październik kosmiczny". TV film dok. 12.30 TV barwna. 13.40 „Pod sztandarem Lenina". 14.15 „Szkatułka muzyczna". 14.30 „Świat socjalizmu". 15.00 Nowiny. 15.15 TV barwna. 16.15 TV film dok. 17.45 „Klub wesołych". 19.45 „Dożyjemy do poniedziałku". Film fab. 21.25 W eterze „Młodość". 22.25 Nowiny.

**Niedziela, 9 listopada**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 Ludowy Arysta Ormiańskiej SRR Gurgien Tonunc. 9.20 TV barwna. 10.05 Spektakl Leningradzkiego Akademickiego Wielkiego Teatru Dramatycznego im. M. Gorkiego. 13.00 Piłka nożna. Polska — Bułgaria. 13.50 Nowiny dnia. 14.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Mińsk) — CSKA. 14.45 Program poświęcony Dniu milicji radzieckiej. 16.00 Centralny Teatr Kukiełkowy. 17.00 „Klub filmowy". 18.00 „TV teatr miniatur". „13 krzeseł". 19.00 „Siedem dni". 19.45 Film fab. 21.00 Koncert. 22.00 „Tydzień sportowy". 22.15 Nowiny.

# БЕЛАСТОЧЧЫНА ІМ АПЛАДЗІРАВАЛА

**З вялікім поспехам прайшлі на Беласточчыне выступленні савецкіх артыстаў, якія пабывалі на нашай зямлі ў сувязі з дэкадай культуры РСФСР. Рускія госці выступалі ў запоўненых да апошняга месца залах. Усюды сустракала іх гасціннасць, а высокае выкапаўчае майстэрства савецкіх артыстаў выклікала захапленне і сардэчныя апладысменты. Сёння змяшчаем фотарэпартаж — справаздачу з канцэртаў рускіх артыстаў у Беластоку.**




Горад быў упрыгожаны плакатамі і транспарантамі, прысвечнымі Дням рускай культуры.



Заслужаны артыст СССР Аркадзій Райкін.



Маладая балетная пара Людміла Семяняка і Мікалай Каўмір — лаўрэаты міжнароднага балетнага конкурса ў Маскве.



Галіна Карава зачароўвала слухачоў старымі рускімі рамансамі.



На вакальным канцэрце салісткі Р. Волкавай у Ваяводскай бібліятэцы.



Выступае салістка Ленінградскага опернага тэатра Рыма Волкава.



Кветкі для артыстаў савецкай эстрады ў тэатры імя А. Вянгеркі ў Беластоку.

ФОТА ЦАФ — СЯНЬКО

## У Арэшкаўскай школе

Пачатковая школа ў Арэшкаве (Гайнаўскі павет) вядомая не толькі таму, што яна новая, чыстая, што тут вучыцца каля дзвюх сотен дзяцей. Ад некалькіх год вядзецца тут харчаванне дзяцей, з якога карыстае амаль уся школьная моладзь.

Справа харчавання развязваецца тут наступным чынам. Педагагічная рада вызначае настаўніка, які цэлы год апякуецца гэтай дзялянкай працы школы. Са свайго боку бацькоўскі камітэт ставіць справу харчавання на агульным сходзе бацькоў. Агульны сход бацькоў вызначае месячную складчыну на харчаванне. У мінулым годзе складчына ад аднаго вучня была 50 зл.

У рамках такога харчавання вучні атрымлівалі гарачую каву і хлеб на змену то з каўбасою, то з маргарынам, то з маслам ці з мармеладам. Як гавораць тамтэйшыя дзеці, а пацвярджаюць і бацькі, «шклянка гарачага малака» тут не прынялася, таму што малака ўдоваль дзеці п'юць дома. Каб толькі так было сапраўды.

Са складчын бацькоўскі камітэт аплочвае жанчыну, якая варыць каву і робіць канапкі (500 зл у месяц). Частка дзяцей, з бедных або мнагадзетных сем'яў, звольнена ад платы за харчаванне. У мінулым навучальным годзе на 170 вучняў у школе з харчавання карысталася каля 140 дзяцей, з чаго каля 30 было звольненых ад платы.

Адным словам, арэшкаўская пачатковая школа, якой кіруе **Мікалай Маліш** і яе бацькоўскі камітэт, робіць шмат карыснай і выхаваўчай працы. (ак)

На старонках кастрычніцкага нумара

# ПОЛЫМЯ

Друкуецца другая частка рамана У. Карпава «Сотая маладосць». Яна, як і першая, заслугоўвае асаблівай увагі ўсіх тых, хто цікавіцца жыццём творчай інтэлігенцыі беларускай сталіцы. З прозы яшчэ часопіс змяшчае пераклады апавяданняў чатырох рускіх пісьменнікаў (Б. Казанава, В. Тараса, У. Кудзінава і А. Наважылава), якія працуюць у БССР. Вядомы беларускі паэт Аляксей Русецкі выступае з новай паэмай «Маналог зямлі».

Варта пазнаёміцца таксама з нарысам Рыгора Семашкевіча «Лічыла дні зязюля...» (пра заходнебеларускую вёску Маліна́ўка, Смаргонскага раёна) і артыкулам Сяргея Грахоўскага «Ульянаўск, дом № 58»... (дом, дзе нарадзіўся Ленін). Не менш цікавы і артыкул Васіля Хомчанкі «Справа аб замаху на Леніна», у якім расказваецца аб замаху на правадыра Рэвалюцыі, учыненага Фані Каплан 30 жніўня 1918 года. Апрача дакладнага апісання гэтага злачынства, раскрываюцца і кулісы яго.

Гістарычную тэматыку нумара працягваюць артыкулы вядомай аўтаркі «Нівы» Аляксандры Бергман «За турэмнымі кратамі» (пра пабыўку Б. Тарашкевіча ў гродзенскай турме) і Аляксея Сарокіна «Крэсы ў агні» (пра партызанскі рух у 20-х гадах на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Між іншым, гаворыцца і аб атрадзе Германа Шыманюка (Скамароха) з вёскі Грабаўцы Беластоцкага ваяводства, які меў сваю базу ў Белавежскай пушчы).

На заканчэнне прапануем увазе нашых чытачоў артыкул Ізідара Ніснэвіча «Максім Багдановіч і музыка».

**Ювэ**

### КЛЮЧЫ Ў РУКАХ

У Рагачах пабудавана новую школу, якая мае неабходныя абсталяванні, як: цэнтральнае абаграванне, асобная кватэра настаўніцкай сям'і і інш. Кошт збудавання — каля трох мільёнаў злотых.

З гэтай нагоды адбылося ў Рагачах свята. Ёсць чым цешыцца, бо дагэтуляшнія ўмовы, у якіх працавала мясцовая школа, былі проста прымітыўнымі. Вучняў тут каля двухсот.

### МІХАЛОЎСКІЯ ЧЫНЫ

За час да верасня гэтага года на тэрыторыі Міхалоўскай Грамадскай рады выканана чынаў на суму паўмільёна злотых. Палепшана дарогу з Міхалова ў Гараймова, упарадкавана басейн у мястэчку, пасаджана дрэўцы. Запланавана пасадку і добраўпарадкаванне местачковага скверыка, які з часам можа быць малым, але нябрыдкім паркам.

### МЕЛІЯРАЦЫЯ АЛЬШАНКІ

Незадоўга будзе закончана меліярацыя лугоў ва ўрочышчы Альшанка каля Сушчы. Загаспадараванне пачнецца ў наступным годзе. Зіму трэба выкарыстаць на паглыбленне ведаў гаспадароў аб выкарыстанні мінеральных угнаенняў. Няўмелае ўжыванне іх ужо не адну вёску пазбавіла на пэўны час добрага сена.

### УЗЯЛІСЯ... І НІЧОГА

На публічным форуме ў Саколцы прадстаўнік моладзі з Крынак, В. Сідараў, урачыста гаварыў аб абавязацельствах, якія прынялі крынкаўскія хлопцы і дзяўчаты ў гонар 400-годдзя свайго «места». Узяліся зрабіць многае, але не відаць таго. Ёсць прымаўка: калі ўзяўся за гужы, не кажы, што нядужы. А ў крынкаўскіх хлопцаў як бы так і выходзіць. Узяліся, трэба кончыць, але хтосьці на кагосьці аглядаецца... Не чакайце цуду. Яго не будзе. Ніхто за вас нічога не зробіць. Час не чакае: незадоўга 22 лістапад, дата, ад якой Крынкі сталі Крынкамі. Няўжо ніхто не думае?

### МЕХАНІЗАЦЫЯ Ў МІЛЕЙЧЫЦАХ

Закупкі збожжа ў разгары. Збожжавая база ў Мілейчыцах, якая абслугоўвае шмат вёсак, да канца гэтага года будзе механізавана. Гэта выдатна аблегчыць працу.

### «ГУБА»

Закупачныя базы ў Нурцы, Мілейчыцах і Мельніку, дзе адбываецца прыём і сегрэгацыя бульбы, атрымаюць транспарцёры тыпу «Губа». (ся)




якасць гэтай зямлі не заахвочвала да аптымізму, не абяцала добрых вынікаў. Пяты і шосты класы. Лепшай не было. У 1958 годзе, калі пасля распаду спулдзельні прадукцыйнай, у Дубічах Царкоўных праводзілі паўторную камасацыю, не было каму заступіцца за «зямлю-сіротку». Дык перасунулі яе на лысыя пясчаныя кускі, якімі ніхто ўжо не цікавіўся.

Першапачаткова загаспадаравалі яны 38 гектараў. Было гэта ў 1964 годзе. А пазней — кожны год усё больш. Зараз уся, звыш 100-гектаровая пасяўная плошча дубіцкай дзяржаўнай зямлі пахне хлебам і сенам. Расце на ёй жыта, ячмень, бульба, грэчка, бруква, авёс з выкай. Толькі на пшаніцу не хапіла ім месца. Слабая зямля. Затое пасвяцца там авечкі доўгаваўністыя, белыя мерыносы. Чарада ў звыш 100 штук, а за воўну з адной такой авечкі можна атрымаць 600 зл. у год. Гэта іх супольная авечая ферма. Ураджаі ў іх таксама не благія. У 1968 годзе — звыш 16 цэнтнераў збожжа з аднаго гектара, у гэтым годзе, на жаль, шмат менш, бо летняя спякота высушыла ім поле. Але і так змаглі яны звыш 24 тоны збожжа адставіць на кантрактацыю, а 15 тон — сабе на пашу і на насенне.

— Як вы апрацоўваеце гэтую зямлю? — пытаю старшыню дубіцкага сельскагаспадарчага гуртка, Мікалая Чыквіна.

— У асноўным выручаюць нас уласныя гурткоўскія машыны, а там, дзе ў дапамогу машынам неабходны людзі, наймаем да працы сялян. Вось у гэтым годзе жыхары Дубічаў і суседніх вёсак зарабілі ў нас 68 тысяч зл. Людзей да працы шукае і імі кіруе палявы брыгадзір, якім у нас з'яўляецца Мікалай Грыгарук. Прыходзяць людзі ахвотна. Мы добра плоцім.

— Ці аплоціцца вам займацца гэтай зямлёй?

— Затрат мы не мелі, а на высокі прыбытак мы ніколі не разлічвалі. Найважнейшае, што зямля дае плён.

Так, гэта найважнейшае, здаецца мне, што сельскагаспадарчыя гурткі Беласточчыны на столькі ўжо ўзмоцнены арганізацыйна, што амаль кожны мог бы заняцца супольнай апрацоўкай зямлі, як гэта робяць у Дубічах Царкоўных. Тады сапраўды кожная палоска «зямлі-сіроткі» пахла б хлебам.

**В. Рудчык**

Увага, сяляне!

## Прывілеі для жывёлагадоўцаў

Сухое лета не спрыяла накапленню пашы для жывёліны. Ёсць тады пагроза, што сяляне пачнуць збываць або абмяжоўваць гадоўлю свіней.

Таму Міністэрства спажывецкай прамысловасці і скупкі рашыла прыйсці сялянам з выдатнай дапамогай. Кожнаму жывёлагадоўцу, які закантрактуе парсюка, **прыслугоўвае права на пакупку 140 кг прамысловага корму.** Варта ведаць, што кармавая вартасць гэтых 140 кілаграмаў прамысловага, высакаякаснага корму раўняецца кармавой вартасці аж 1400 кг бульбы.

Селяніну, які гадуе свінаматку, прыслугоўваюць яшчэ дадатковыя прывілеі. Калі апаросіцца свіння і гэта пацвердзіць грамадскі заатэхнік, селянін мае права купіць 120 кг прамысловага корму, а за закантрактаваную свінаматку — дадаткова яшчэ 50 кг.

Прывілеі, пра якія гаворым, **будуць прызнавацца ад 1 кастрычніка 1969 года да 30 верасня 1970 года.**

За больш дакладнымі інфармацыямі трэба звяртацца да грамадскіх заатэхнікаў і інструктараў Саюза жывёлагадоўцаў. Яны павінны выясніць усё падрабязна.

Пры нагодзе прыпамінаем сялянам, што самым лепшым спосабам перахавання бульбы на зіму з'яўляецца яе параннe. Як гэта рабіць, запытайце ў агранома. Параная бульба захоўвае праз цэлую зіму ўсе свае кармавыя якасці.

**Інж. Макар Дземяновіч**
**кіраўнік Ваяводскага саюза жывёлагадоўцаў**

ТЭОРЫЯ ЛІТАРАТУРЫ

## Характарыстыка вобразаў-персанажаў

Тэматыка сённяшняй публікацыі выступае ў праграме навучання беларускай мовы ва ўсіх класах пачынаючы ад пятага. Выкарыстоўваючы наш матэрыял настаўнік павінен улічваць праграмны аб'ём матэрыялу для паасобных класаў і адпаведна яго дапасоўваць.

*

Ідэя або ідэйны змест твора раскрываецца ў вобразах, мастацкіх тыпах, створаных пісьменнікам. Тыповым з'яўляецца такі вобраз, які, будучы вельмі канкрэтным, мае ў сабе абагульненне, раскрывае заканамернасці жыцця. Таму пры разглядзе мастацкага твора важна паказаць, якімі сродкамі пісьменнік дасягае гэтай канкрэтнасці і абагульненасці ў вобразе, як ён стварае вобраз, дабіваецца таго, што мы верым у існаванне людзей, аб якіх гаворыцца ў творы. Такіх спосабаў ёсць многа. Галоўныя з іх — аўтарская характарыстыка, партрэт, паказ учынкаў, перажыванняў героя, абстаноўкі, у якой ён жыве, мова персанажа і іншыя.

**Аўтарская характарыстыка, партрэт.** Аўтарскую характарыстыку часта можна сустрэць у апавядальных творах: аповесцях, раманах, паэмах. Сутнасць яе заключаецца ў тым, што аўтар знаёміць нас з героем, характарызуючы яго як чалавека, паказваючы яго паводзіны, адносіны да іншых людзей. Вось характарыстыка дзядзькі Антося з паэмы «Новая зямля» Я. Коласа (на жаль, яе няма ні ў праграме ні ў падручніках).

Антось наш дбалы, акуратны,
А пры рабоце які здатны!
Што ні замысліць, то ўсё зробіць,
І так прыгоніць, так аздобіць,
Што і для вока нават міла.
І ўсё выразна гаварыла,
Што ён не толькі гаспадар,
Але й прыроджаны штукар,
Якіх на свеце не так многа.
За дзядзьку людзі просяць бога:
Каму ён толькі не спрыяе,
Каго з бяды не вызваляе.

У аўтарскай характарыстыцы герой паказваецца часцей за ўсё абагульнена, пісьменнік раскрывае асаблівасці яго характару, адносіны да жыцця, думкі, намеры, імкненні, ацэньвае чалавека ў цэлым.

Для таго ж, каб вобраз чалавека выкарыстоўваўся больш наглядна, канкрэтна, каб яго можна было бачыць, такой агульнай характарыстыкі недастаткова. І пісьменнікі звяртаюцца да п а р т р э т а, г. зн. да апісання знешняга выгляду героя, яго вопраткі, твару, жэстаў, мімікі, рухаў. Літаратурны партрэт мае тую асаблівасць, што ён зменлівы, жывы, даецца ў руху. А вось партрэт дзядзькі Антося ў паэме «Новая зямля» Я. Коласа:

Вось як жывога, дзядзьку бачу,
Я тут партрэт яго зазначу.
Ён не высок, не надта ёмак,
Ды карчавіты і няўломак,
А волас мае цёмна-русы.
І зухаўскія яго вусы
У меру доўгі, туставаты,
Угору чуць канцы падняты;
А вочы шэры, невялічкі,
Глядзяць прыветна, як сунічкі,
Але раптоўна і адразу
Не расчытаеш іх выразу:
То смех, то хітрасць з іх бліскае,
То дабрата, але якая!
А нос... я глянуць мушу ў неба,
Бо не патраплю, як пачаць
І з чым нос дзядзькаў параўнаць,
Каб выйшаў ён такі, як трэба:
Ну, нос кароткі і таўсматы,
Ды досыць спрытны, хоць кірпаты.

Партрэт героя ў мастацкім творы выяўляе таксама характар чалавека, а таксама і адносіны пісьменніка да героя. Так, пры дапамозе апісання знешняга выгляду дзядзькі Антона Я. Колас дае зразумець, што дзядзька добры, разумны і разам з тым звычайны просты чалавек.

**Пейзаж і апісанне абстаноўкі.** Для характарыстыкі героя пісьменнік нярэдка выкарыстоўвае апісанне прадметаў, рэчаў, якія акружаюць героя, паказвае абстаноўку, у якой ён знаходзіцца. Ролю апісання і пейзажу ў мастацкім творы мы выразна бачым у «Паляўнічым шчасці» Э. Самуйлёнка («Яднае нас дружба», VII клас, стар. 115), а роля пэйзажу вельмі вобразна паказана ў «Новай зямлі» Я. Коласа.

У наступным адрэзку тэма: Сюжэт і кампазіцыя твора.

**А. К.**

«KIEROWCO, POMÓŻ DZIECKU»

## ДЗІЦЯ ПРОСІЦЬ ДАПАМОГІ

Як і ў мінулыя гады, з надыходам халадоў і непагадзі па ініцыятыве міліцыі, гарцэрства, таварыства сяброў дзяцей і ў супрацоўніцтве са шматлікімі ўстановамі зноў аб'яўлена акцыя пад лозунгам: «Шафёр, памажы дзіцяці!»

Штодзень велізарная колькасць дзяцей адмервае па 3—5, а часам і больш кіламетраў да школы ў суседніх вёсках. І ў дождж, і ў холад можна ўбачыць на шашы згорбленыя ад холаду фігуркі з тарністрамі. А ў той жа час па шашы без перапынку імчацца аўтамашыны, службовыя і прыватныя, часта зусім пустыя. Ці ж не варта памагчы дзіцяці? Падкінуць яго па шашы два—тры кіламетры? Іменна з такой прапановай звяртаецца штаб акцыі да ўсіх вадзіцеляў аўтамашын: «Шафёр, памажы дзіцяці!» Падзякай ад дзіцяці будзе яго ўсмешка, а таксама ўласнае прыемнае пачуццё ад спаўнення добрага ўчынку, праяў чалавечнасці і клопату аб дзіцяці. Апрача таго, кожнае дзіця павінна мець з сабою спецыяльныя купоны з пячаткай школы. Такія купоны дзеці павінны зрабіць сабе самі пад кіраўніцтвам настаўнікаў, напр., на занятках ручной працы. На купоне павінна быць імя і прозвішча дзіцяці, выразная назва школы на пячатцы і абавязкова надпіс: «Dziękuję ci, kierowco!»

Купон павінен выглядаць эстэтычна і прыгожа, таму дазваляецца на ім маляваць розныя дэкарацыйныя элементы.

Пры ўсіх так відавочных дабрачынствах акцыі, неабходна падкрэсліць вельмі важны і рызыкоўны момант, на які павінны ўсе зацікаўленыя звярнуць як найпільнейшую ўвагу: **бяспека дзіцяці.**

Перад тым, як дзіцяці будзе даручаны купон і дазволена затрымоўваць аўтамашыны, неабходна дакладна ўпэўніцца, ці дзіця ведае, як павінна захоўвацца на шашы, як затрымоўваць машыну. Ні ў якім выпадку нельга выходзіць на дарогу. Дзіця павінна стаяць на абочыне шашы і толькі падняць руку. Шафёр, са свайго боку, павінен памятаць аб усіх правілах бяспечнага затрымання. Неабходна дапільнаваць, каб дзіця добра зачыніла за сабой дзверкі, а калі ўжо бярэш некалькі дзяцей у кабіну грузавіка, дык неабходна забяспечыць дзверы кабіны са знешняга боку спецыяльным замком. Штаб акцыі сурова забараняе браць дзяцей у кузаў грузавіка. Трэба памятаць, што гэта дзеці, і яны не могуць заставацца ў адчыненай машыне без апекі дарослага.

Аб бяспецы дзіцяці на шашы павінны заўсёды памятаць і дзеці і дарослыя.

Звяртаемся да ўсіх шафёраў аўтамашын: памажыце дзіцяці і вазьміце ўдзел у конкурсе. Сабраныя купоны трэба пакуль што старанна перахоўваць. Пазней будзе аб'яўлена, куды іх трэба выслаць, каб быць удзельнікам конкурсу.

Шафёры, якія найчасцей памагалі дзецям, атрымаюць рэчавыя і грашовыя ўзнагароды, а таксама званне тарнаровара сябра дзіцяці. (яч)

Пачатак на стар. 1

## Адгалоскі Вялікага Кастрычніка

люцыі, чалавечай годнасці, роўнасці, знясення эксплуатацыі. Прытым сяляне бачылі, як можна за гэтыя ідэі змагацца і ўводзіць іх у жыццё, мелі ў гэтым вопыт.

На Заходняй Беларусі было бурліва і неспакойна да канца міжваеннага дваццацігоддзя. Беларускія сяляне не толькі бунтаваліся супраць існуючым парадкам, але сваёй актыўнасцю прычыняліся ў значнай меры да распаўсюджвання рэвалюцыйных ідэй ва ўсёй Польшчы.

**Ул. Паўлючук**

З нашай мінуўшчыны

## Антыфеадальныя хваляванні сялян на ўсходнім Падляшшы (2)

Яшчэ цікавейшы факт арганізаваных антыфеадальных хваляванняў падае Б. Бараноўскі («Z dziejów antyfeudalnych ruchów chłopskich na Podlasiu», Warszawa, 1953). У вёсцы Рэпнікі Суражскага старастваў у 1592 г. сяляне аб'явілі забастоўку. Яны «праявілі такое нахабства, што... не захацелі на полі нашым спратваць (збожжа — У. Ю.) з увагі на што 200 коп аўса змарнавалася, а жыта чуць звезена». Падстараста суражскі Ажэхоўскі вырашыў іх прыкладна пакараць пры дапамозе ўзброеных наймітаў. Сяляне мужна бараніліся і ў міжчасе злажылі скаргу ў каралеўскі (рэферэндарскі) суд. Аднак назначана неаб'ектыўных суддзяў, якіх сяляне ізноў сустрэлі аружжам. У выніку — арыштавана каля 20 сялян і прысуджана пакараць іх смерцю. Урывак прысуду гаворыць:

„...My wiedząc, że wszelka swawola i bunt karane i hamowane być mają, aby z nich większa pobudka do nieposłuszeństwa nie rosła, należliśmy, że ci buntownicy i hersztowie do więzienia są dani, zasłużyli na gardle, jako naprzód ze wsi Doroszków Tuchoń, Kozieł, Miczin Kratów, zaś ze wsi Bohdanków — zięć Kuczików Wojtek i organista. Ze wsi Rostoltów Sienko Turowicz, Marko Turowicz Grzesiów zięć, Iwan Wikłoda, Sergej Leninów syn, Daniełо Sienków syn, ze wsi Rzepników — Raczko z synami, Piekarz z Ludka, ze wsi Triczówka — Iwan Oniskowicz Baran, ze wsi Bielów Lelusz — Jakub Janczikow".

Незалежна ад гэтага суд павялічыў паншчыну на 2 дні ў тыдні, паклаў на сялян успамянутых вёсак абавязак працы ў суражскім замку, пры пабудове дарог і іншае, а сам Ажэхоўскі пачаў здзекавацца над імі. У 1611 годзе сяляне Суражскага старастваў ізноў пачалі бунт і судовы працэс. Не ведаем яго заканчэння. Вядома толькі, што звыш 20 год пасля гэтага факта ўжо новы ўладальнік К. Весялоўскі вымушаны быў правесці «пацыфікацыю» цэлага старастваў. Прыдушаныя, стэрарызаваныя прыгонныя сяляне перасталі на нейкі час бунтавацца. Але яшчэ цэлыя стагоддзі суражскія сяляне вялі няроўную барацьбу з феадаламі і шляхтай. У судовых актах вельмі часта выступаюць такія назвы як «бунт», «зухваласць», а нават «крывавыя рэбэліі». (1639, 1670, 1708, 1721 гады).

На пераломе XVII і XVIII ст. хутка ўзрастае магутнасць магнатаў Браніцкіх. Аб усіх іх дабротных пастунках — перабудове Беластока, пабудове найпрыгажэйшага палаца, арганізаванні тэатра, школы, бібліятэкі, а нават няўданай палітычнай кар'еры — напісана ўжо даволі многа, можа нават больш, чым было зроблена. І ўсюды ў літаратуры Браніцкія выступаюць як род гаспадарны, дысцыплінаваны, аб выключна добрых адносінах да сваіх прыгонных сялян. Рэдка аднак успамінаецца, што іх гадавы даход складаў каля мільёна польскіх злотых, якія прызначаліся не толькі на вышэй успомненыя мэты, але ў асноўным на даволі частыя тыднёвыя п'янствы і гулянкі, у якіх брала ўдзел па 200 і больш асоб.

У той жа час «вырак суда рэферэндарскага» з 15.VI.1720 г. паміж Янам Клеменсам Браніцкім а сялянамі многіх вёсак Бельскага старастваў:

„...Berezowa Stara, Szostakowa, Osówki, Burza, Morza, Dubicy, Mochnatowa, Hytra, Stoka, Kuraszewa, Witowa, Borka, Jagród, Karno Stare, Korytysk, nazwanych do leśnictwa naszego bielskiego należących powodów, a to oto, iż pozwani nie uważając na prawa i przywileje od najjaśniejszych antecessorów naszych i nas samych pracowitym powodom nadane i, owe lekceważąc, a osobliwie urodzony Smagorzewski na miejscu urodzonego starosty naszego prawa ich w piec rzucać i palić każe, a podatkami umyślnym powodów agrewuje i niszczy egzekucjami nieznośnie ciemięży, do robót niesłychanych i niezwyczajnych przymusza, podróże różne, jako to do Królewca, Warszawy, Lublina wymyśla albo okupy za nie dawać niewoli, zbożem różnym zarzuca a sumę wysoko położywszy za nie wyciąga, do czynszów oddawania nad opisanie praw przymusza, także glejt nasz pracowitym poddanym dany miawszy on do czytania w ręce podany, wprzód on o ziemię uderzywszy nogami deptał, pracowitych powodów łapać i każdemu po 300 kijów dawać kazał, aż z nich jednego przezwiskiem Iwana Buraka z okrucieństwa swego o śmierć przyprawił: tym się nie kontentując egzekucją konną i piechotną nasłał..."

Суд закончыўся тым, што Браніцкі паскардзіўся каралю, які выслаў сялянам напамінальны ліст, каб яны тэрмінова адраблялі паншчыну, слухаліся адміністратараў і больш не бунтаваліся супраць сваіх паноў. Інакш будуць цяжка пакараны.

**У. Юзвюк**

**хроніка дружбы**

# Быў год 1945...

**У нашай хроніцы выступае сёння ВІТАЛЬ ВЭНЦЛІК — адвакат. Быў адным з саарганізатараў Акруговага праўлення ТППР у Беластоку і яго першым старшынёй. На чале ваяводскай арганізацыі ТППР стаяў да 1950 года. В. Вэнцлік быў выконваючым абавязкі прэзідэнта горада Беластока (да мая 1945 года), а потым старшынёй Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку.**

* * *

Прыпомнім: быў гэта 1945 год. Залатая верасневая восень. Яшчэ ішла збройная барацьба з унутранымі варожымі сіламі. Ішла таксама вялікая барацьба з перажыткамі старой ідэалогіі, астаткамі папярэдняга перыяду.

Трэба было ўказваць на карысці і выгады новай палітыкі — палітыкі дружбы з СССР. Трэба было гэта даводзіць да людской свядомасці. А лёгка не было. Арганізаваная сіла варожага падполля (для цікавасці і падкрэслення ўмоў, у якіх нараджалася новае, скажу, што ў 1946 годзе, калі выйшла амністыя, выявілася ў нашым ваяводстве 11 тысяч асоб. Толькі ў Люблінскім было некалькі соцен больш), якое ўсімі сіламі старалася знішчыць новы палітычны погляд, ішло супраць партыі, супраць нас. Прыналежнасць да ТППР ці нават сімпатызаванне з ідэяй польска-савецкай дружбы банды лічылі як прыналежнасць да ППР. За гэта людзей забівалі і палілі вёскі.

Наша праца ў ТППР была тады адной з галоўных дарог палітычнай працы. Мэтай сваёй мы ставілі выясняць людзям новую палітыку, новы дзяржаўны інтарэс Народнай Польшчы, а таксама супольнасць інтарэсаў нашых і СССР.

Паўстанне ваяводскай арганізацыі яднала ўсе сілы прагрэсу ў ваяводстве. ТППР арганізавалі і ў склад праўлення ўступілі прадстаўнікі ППР, ППС, СЛь, СД, прафсаюзаў, войска, моладзі, асветы. На нашы пасяджэнні збіраліся ў будынку Ваяводскай рады ў Беластоку на рагу вуліц Навоткі і Міцкевіча, там цяпер дзіцячы сад.

Праўленне наладзіла сувязь з усімі гурткамі, якія дагэтуль часта самастойна ўзнікалі, між іншым у Гайнаўцы. Гэта праўда, што там паўстаў першы гурток прыяцеляў польска-савецкай дружбы.

Праўленне пачало працу па арганізаванні новых гурткоў і павятовых аддзелаў.

Найлягчэй ішло ў фабрыках, сярод рабочых. Тут новая ідэя новых суадносін прыймалася найхутчэй. І без супраціўлення. Вязалася гэта з рэвалюцыйнасцю рабочых асяроддзяў яшчэ перад вайной. На Беласточчыне, напрыклад, да вайны былі два моцныя цэнтры рабочага руху ў Чорнай Всі і Гайнаўцы. У Чорнай Всі дзейнічалі дзве ячэйкі КПЗБ. Адну з іх ніколі паліцыі не ўдалося адкрыць.

Паўставалі ў фабрыках такія куткі польска-савецкай дружбы. Зваліся яны чырвонымі куткамі. Яны заняліся распаўсюджваннем савецкіх газет, гаварылі аб дружбе, ролі, магутнасці СССР і яго матэрыяльнай дапамозе Польшчы.

Дапамога была. Мы, як арганізацыя ТППР, заняліся пасля вайны рассыланнем збожжа і цукру па ваяводстве. Гэтыя прадукты атрымлівалі таксама ад СССР. У два месяцы пасля вызвалення Беластока савецкія ўлады прыслалі нам вагон жыта, потым цукру. На перасылаемы транспарт з цукрам недзе ля Аўгустова напалі банды. Такі быў тады час.

Арганізацыя аднак, якая працавала толькі на грамадскіх сілах, якая абапіралася на ахвярных і смелых людзях, разрасталася. Ставалася масавай. Масавай ставалася яна хутка і адразу, бо ідэю несла добрую, а таксама таму, што былі ж ужо гурткі. Іх трэба было толькі прыняць пад супольныя крылы.

Гаспадарчае развіццё краіны спрыяла развіццю арганізацыі. Пацвярджала сэнс яе працы.

Запісала — (вл)

**З запісак пешахода**

# Старымі сцежкамі

Дарога з Рыбалаў у Паўлы вашаму рэпарцёру добра знаёмая. Усё тут — як гаворыцца ў той песні — знаёмае аж да болю, усе сцежкі ды сцяжыначкі.

Хаця не, не зусім гэта так. Не ўсё ў паўлаўска-рыбалаўскім краявідзе месціцца ва ўспамінах дзяцінства. Вось хаця б аўтамашыны ехаўшыя па нярсўным, запыленым гасцінцы то ў адзін то ў другі бок. Нагружаныя скрынкамі з яблыкамі ды памідорамі — гэта аўтамашыны паўлаўскіх гаспадароў.

У вёсцы пешахода сустракае атмасфера аж надта свойская і вядомая з даўных-даўно: ля крамы, якая тут жа ля гасцінца, натоўп п'яных людзей. П'яныя, як п'яныя, шнуруюць упоперак вуліцы, п'юць піва ды гарланяць на ўсю вёску. Бо да Паўлаў давялося мне трапіць назаўтра пасля «асенняга Івана». А на Івана ў Паўлах так званы «отпуст», гэта значыць фест.

У мясцовай школе вітае мяне добры знаёмы, загадчык школы Аляксей Максімюк. Родам з Паўлаў, працуе ён у гэтай школе праз увесь пасляваенны перыяд. За гэты час у школе паспела змяніцца ўжо мабыць некалькі дзесяткаў настаўнікаў, былыя вучні сталіся дарослымі, пажаніліся ды высылаюць свае дзеці ў гэтую школу, а сябар Максімюк заўсёды, здаецца, той самы, са шчырай дабрадушлівай усмешкай.

У цеснай, поўнай сшыткаў і дзённікаў канцылярыі сяджу ды слухаю сябру Максімюка. Расказвае аб новым у Паўлах: аб трактарах, аўтамашынах, аб кантрактацыях, даходах ды аб мастацкім аматарскім гуртку, які дзякуючы школе існуе тут ужо не менш дзесяці гадоў. Настаўнік, якому не чужы пах паўлаўскай зямлі, які добра ведае з уласнага вопыту працу на гаспадарцы — ўвасабляе ў сабе старыну і сучаснасць вёскі, яе традыцыю і прагрэс, пачуцці і розум.

Можа таму менавіта па ініцыятыве сябры Максімюка ўзнікла некалькі гадоў таму назад у Паўлах нешта зусім асаблівае і арыгінальнае: сцэнічная інсцэнізацыя мясцовага вясельнага абраду з тэкстамі ў арыгінальнай паўлаўскай гаворцы. Спектакль некалькі разоў ставіўся ў Паўлах ды ў некалькі суседніх вёсках, выклікаючы захапленне публікі. Зараз Максімюк са сваімі настаўнікамі, а ўласціва настаўніцамі, мае намер аднавіць пастаноўку ў пашыранай форме, уключаючы ў яе фальклорныя тэксты сабраныя ў Паўлах з розных бытавых абрадаў.

Ходзіць тады кіраўнік паўлаўскай школы Аляксей Максімюк са сваімі настаўнікамі па вёсцы ды збірае старыя абрадавыя тэксты, каб іх потым паказаць на вясковай сцэне. Гэта ў сутнасці найлепшы падарак, які можа зрабіць вёсцы яе інтэлігент, які вырас у гэтым фальклоры і праз усё жыццё з ім звязаны. Падарак, які мог зрадзіцца толькі са шчырай прывязанасці і любві сваёй вёскі і яе духовага багацця. Бо на колькі мне вядома, не гледзячы на тое, што так многа гаворыцца аб фальклоры, ніхто дагэтуль не асмеліўся ці не падумаў, каб выкарыстаць на сцэне фальклорнае багацце якраз сваёй вёскі ці ваколіцы ў яго арыгінальным выданні.

Развітаўшыся з сябрам Максімюком і яго сімпатычнымі настаўніцамі, пайшоў я пясчаным гасцінцам у Канюкі. Канюкі даўным-даўно лічыліся найбольш адсталай вёскай у ваколіцы. У Канюках не быў я ўжо хіба з пяць гадоў. Не знайшоў многіх знаёмых мне раней хатаў, вёска змянілася да непазнання. Пайшоў у мясцовую 4-класную школу, каб сустрэцца са старым настаўнікам сябрам Матвеюкам, які калісьці ахвотна заспакойваў мае зацікаўленні мясцовым фальклорам: вадзіў мяне да старых людзей, якія любілі расказваць сёе-тое ды паспяваць. Але замест Матвеюка прывітала мяне ў школе маладзенькая настаўніца, якая працуе тут першы год. Што ёй да старыны! Няма тады іншай рады: вясковую старыну прыеду аглядаць на паўлаўскай сцэне.

**У. Паўлючук**

**Падчас сустрэчы сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк уручыў дырэктару дэпартамента МСВ З. Арлоўскаму падарак у постаці зубра зробленага з дрэва.**

# Сустрэча ў Гайнаўцы

11 верасня ў Доме настаўніка ў Гайнаўцы адбылася сустрэча працаўнікоў Міністэрства ўнутраных спраў з прадстаўнікамі мясцовых улад і прадстаўнікамі Беларускага таварыства. Падчас гэтай сустрэчы выступіла з канцэртам эстрада ГП «Лявоніха». (мх)

**Фота Цаф — Сянько**

* * *

**Сцэнка пад загалоўкам «У прыёмнай ветэрынарнага пункта». Выступаюць Марыся Мароз і Янка Блізнюк.**

Усё людское нам не чужое

# НЯХАЙ ЖЫВУЦЬ НАШЫ «ЦЮХЦІ»

У тэлевізары паказалі, як недзе далёка ад нас, аж у Быдгаскім ваяводстве, урачыста і са слязьмі ў вачах развіталіся людзі з «цюхцяй» — такім старым цягнікам. Ішоў ён на заслужаную пенсію, а на яго месца прыходзіў новы, малады. Усюды, як відаць, абавязвае звычайны ход звычайных спраў. «Цюхця» выглядала весела, ідучы на пенсію, не так як некаторыя з людзей, якія не надта лёгка ўступаюць з дарогі жыцця і сваіх месц. Ды ў людзей заўсёды справы, самыя простыя і зразумелыя, нават «цюхці» стаюцца незразумелымі. Дагэтуль не патрапіць чалавек развязаць гардыйскага вузла.

Але я хацела аб чым іншым, менавіта, што ў нас, на Беласточчыне, не адна яшчэ цюхця пыхціць, траскаціць, калышацца, як бы за хвіліну мела выскачыць з рэек і паімчацца ў чыстае асенняе поле. Людзей, якія ў Быдгаскім з жалем развітвалі іхнюю апошнюю «цюхцю», запрашаем цяпер на паездку нашымі «цюхцямі» на лініях Беласток—Бельск—Гайнаўка, Бельск—Чаромуха. Няхай плятуць вянкі і чапляюць на шыі нашым родным цягнікам, якія тут безупынна ездзяць. Бо заслужаная беластоцкая «цюхця» яшчэ не думае адпачываць. Старая, то праўда, крэкча, то праўда. Часта чалавек аж мучыцца, што ўлез у яе і сядзіць сабе як пан, а ёй беднай так цяжка. Што больш спачувальныя бабы, задумаўшыся, пачынаюць напінацца і стагнаць, памагаючы такім чынам «цюхці» ехаць.

Наша «цюхця» вытрымлівае. Нават колькі вытрымлівае! У чацвер, напрыклад, з Бельска як ад'язджае, то аблеплена, як вулей пчоламі ў добрую пагоду.

Мы са сваімі «цюхцямі» аднак добра жывем. І згодна так, як згодна, доўга і цярпліва жывем з нашымі «люксусовымі» атопленымі папяросным дымам баракамі-станцыямі ў Бельску і Гайнаўцы. Дзіву не надамося, што багатая ПКП мае на вянкі развітальныя быдгашскай «цюхці» і ані разу за ўсе нашыя вялікія 25 год не падумала аб гэтых станцыях. Ці ж бы сніліся ім дзікія пушчанскія нетры...?

Ве-Ле

Так коратка і скромна, а зразумела і трапна назвалі арганізатары турнір ведаў пра Леніна. Распачаўся ён ужо і прадаўжацца будзе да сотай гадавіны з дня нараджэння гэтага вялікага Чалавека ў наступным годзе. Ваяводскі агляд адбудзецца ў сакавіку.

Інфармуем, што беластоцкія арганізатары, адным з якіх з'яўляецца ТППР, запланавалі для сваіх удзельнікаў ваяводскага агляду, акрамя звычайных узнагарод за ўдзел, таксама

# „УЛАДЗІМІР ЛЕНІН"

двухднёвую экскурсію ў Кракаў і Паронін — гістарычныя месцы, дзе жыў і працаваў Ленін.

Не думаем, каб хоць некалькі асоб з Беласточчыны не дайшло і да цэнтральнага агляду, а там ужо ўзнагародамі будуць экскурсіі ў СССР.

Удзел можа прыняць кожны, малы і вялікі, акрамя гісторыкаў і студэнтаў гісторыі.

Турнір будзе базавацца на 9-ці кніжках, якіх загалоўкі падаем ніжэй і з якіх чытач здабудзе патрэбныя для турніру веды.

1) **W. I. Lenin — O Polsce i polskim ruchu robotniczym, KiW, 1955.**
2) **Wł. Gomułka — O naszej partii, KiW, 1968.**
3) **Wł. Gomułka — Z kart naszej historii, KiW, 1965.**
4) **Wł. I. Lenin — Życiorys, KiW, 1961.**
5) **E. Reed — 10 dni, które wstrząsnęły światem, KiW, 1968.**
6) **H. Jabłoński, A. Kruczkowski — Wielka Socjalistyczna Rewolucja Październikowa, a Polska, KiW, 1967.**
7) **Stosunki polsko-radzieckie w latach 1917—45, Dokumenty i materiały, KiW, 1967.**
8) **N. Krupska — Wspomnienia o Leninie, KiW, 1958.**
9) **A. Makarenko — Lenin na ziemiach polskich, KiW, 1965.**

На этапах ніжэйшых аглядаў грамадскіх ці павятовых, патрабуецца прачытання меншай колькасці кніжак 2, 3, 6. Увогуле найважнейшае ведаць пра Леніна як найбольш. А гэта ўжо справа вельмі цікавая і вартая захадаў.

Інфармацыі пра турнір шукайце ў бібліятэках, клубах, аддзелах культуры, аддзелах ТППР і ў нас, у рэдакцыі. (вл)

# Калі ў Саколцы што-небудзь...

Калі ў Саколцы што-небудзь робіцца для моладзі і яе выхавання, дык першая ў тым заслуга моладзі мясцовага ліцэя. Не робіць яна таго стыхійна, але арганізавана: ЗМС налічвае ў ліцэі не абы-якую колькасць 132 члены (іншыя ЗМС-ы ў Саколцы налічваюць літаральна па некалькі асоб). Кіраўніцтва школьнай арганізацыяй перайшло ў рукі, так сказаць, маладых — гэта значыць, вучняў першых і другіх класаў. Сэнс: каб мелі час да «матуры» зрабіць, што задумалі. Здаецца, першая гэта але цалкам добрая практыка.

Ліцэісты сур'ёзна ўзяліся за аднаўленне зруйнаванага цэнтра водных спартаў, рэгулярна наводзяць парадкі ў парку, садзяць дрэўцы, глядзяць за чысцінёю горада (які горад мой, такі і я!), арганізуюць гуфцы працы, пасадкі лесу, помач у капанні бульбы, дапамогу слабым і двоечнікам. А прытым, наладзілі цыкл дакладаў і гутарак па тэорыі марксізма, эканамічных праблемах і г.д. Утворана ўжо чатыры гурткі маладых рацыяналістаў, зацікаўленых матэрыялістычным поглядам.

Красуюцца ўзнагароды, здабытыя на навуковых алімпіядах, чытальніцкіх турнірах. Адбываюцца сустрэчы з цікавымі людзьмі, ветэранамі войнаў, пісьменнікамі, мастакамі, палітыкамі. Мы не горшыя ад Беластока, сказалі, і арганізавалі зэтэмэсаўскія чацвяргі ў каварні «Мілая», на якія столькі ахвотных, што хлопцы і дзяўчаты, несарганізаваныя ў ЗМС, выступалі са скаргамі, чаму і іх не пускаюць на тыя чацвяргі! Няма месц —але выйсце будзе, скажам, у «серадах і чацвяргах»...

Актывісты: Лена Мішкін, Тэрэска Смурло, Дануся Жукевіч, Данка Рудзінская, Крыся Склепкоўская, Крыся Баліцкая, Юрка Місяк. Шэф: Кшыштаф Бацькоўскі. У гэтым месцы словы вялікай падзякі апекуну арганізацыі Казіміру Касакоўскаму. (ся)



Моцны ўдар.

# Як мы куплялі падарунак

Жонка сказала мне, што ў суботу мы запрошаны на дзень нараджэння да яе прыяцелькі Ірэны. Напярэдадні мы адправіліся ў магазін за падарункам.

— Як табе падабаюцца гэтыя туфелькі? — дапытліва паглядзела на мяне жонка.

— Цудоўныя! — радасна сказаў я. — Асабліва на яе ножках...

Выраз твару маёй жонкі нейк дзіўна змяніўся.

— Так, але туфлі ў падарунак не купляюць, — суха сказала яна.

Мы пашлі далей і неўзабаве спыніліся ля вітрыны.

— Паглядзі, які прыгожы капялюшык! — сказала жонка.

— Чароўны! — згадзіўся я. — Уяўляеш, як ён будзе да твару Ірэне? Асабліва, калі яна выпусціць грыўку...

— Так, але я не ведаю яе размеру, — злосна адрэзала жонка.

Цяпер мы спыніліся ля вітрыны ювелірнага магазіна.

— Ах, якое прыгожае кальё! — сказала жонка.

— Дарэчы, цяпер модна дарыць кальё.

Я дастаў партманет.

— Кальё Ірэне вельмі падыдзе. Асабліва да чорнай сукенкі.

— Я перадумала, — злосна сказала жонка. — Непрыстойна рабіць такі дарагі падарунак.

Я пакорна паціснуў плячыма, і нейкі час мы ішлі моўчкі.

— Мабыць, добрую кнігу? — нерашуча запанаваў я.

— Божа мой! — пляснула рукамі мая жонка. — Я зусім забыла! У мяне ж у суботу сцірка. А табе, галубок, давядзецца заняцца кветкамі. Трэба іх перасадзіць і падрэзаць.

**А. Забелскіс**



Аптыміст.



### З ДАГЕСТАНСКАГА

Калі сапраўдны ты мужчына,
Насіць табе навошта зброю?
Калі ж зусім ты не мужчына,
Нашто тым больш табе такое!

* * *

Калі дзіця сустракаюць —
Курыцы гора.
Калі нябожчыка памінаюць —
Курыцы гора.

### ПАРАДА

Вопытная маці раіць маладой маці:

— Проста ўяві, што гэта не тваё дзіцё. Кожны ж ведае, як выхоўваць чужых дзяцей.

### НЕРАШУЧЫ

— Ніяк не магу вырашыць, ісці мне на вяселле, ці не.

— А хто цябе запрасіў?

— Мая нарачоная.



Перспектыва.

### У ПЕРШЫМ КЛАСЕ

Настаўнік на Ашота паглядзеў:
— Якая літара за А ідзе?
Устаў Ашот — няма чаго цягнуць:
— За А... за А ўсе літары ідуць.

**Мкрціч Карун**

### ПАМЫЛКА

У дом мільянера ўрываецца малады чалавек з пісталетам.

— Сэр! Я моцна люблю вашу дачку! — Ён прыстаўляе да галавы пісталет. — Калі вы не згодзіцеся на наш шлюб, кроў мая ўпадзе на вас!

— Але ў мяне няма дачкі, — здзіўлена адказвае мільянер.

— Выбачайце, мне, відаць, далі непраўдзівую інфармацыю.

### ВЫТЛУМАЧЫЎ

Два мудрацы паспрачаліся аб тым, каго можна назваць дурнем.

— Дурань, — гэта чалавек, які выказвае свае думкі так, што іншыя яго не разумеюць. Ты зразумеў мяне?

— Не, — адказаў субяседнік.

### У РЭСТАРАНЕ

— Афіцыянт, чаму кофе несалодкае?

— Відаць, вы размешвалі цукар не ў той бок.

### НА ЭКЗАМЕНЕ

Студэнт хмыкае:

— Прафесар я не заслугоўваю двойкі...

— Ведаю, але, на жаль, больш нізкіх адзнак у нас няма.

### ПРЫЧЫНА

— Чаму вы ў рабочы час чытаеце дэтэктыўны раман, таварыш Сідараў?

— Разумееце, таварыш дырэктар, тут такі шум, што проста немагчыма чытаць больш сур'ёзныя кнігі.

### У СУДЗЕ

— Сведак, вы жанаты?

— Не, пане суддзя, я толькі так выглядаю.

### Талаваломка

На рысунку шмат фігурак. Адны ідуць управа, іншыя ўлева. Паспрабуйце падлічыць «на вока», колькі адных і колькі другіх.

**Адказ на заданне з папярэдняга нумара. Кольца № 3.**



— Пазнаёміліся на пляжы...

# У ДУХУ ЧАСУ

Калі дзед Мазай даставіў выратаваных зайцаў на сушу, да яго звярнуўся модна апрануты заяц з рэпартафонам на плячы:

— Таварыш Мазаеў, некалькі слоў для ляснога радыё!

— Ды часу няма. Зайчыкаў трэба асушыць. Зусім намоклі...

— Нічога, пачакаюць. І так, аб чым вы думалі, ратуючы нашых лясных братоў?

— Пра што думаў? Пра хваробу сваю. Як разальецца вада, так і пачынаецца ў мяне ў касцях ламата — рады няма.

— Дарагія сябры! Вы чуеце голас таварыша Мазаенка. Ён расказвае, што якраз у час разліву ў яго наступіў вострых прыступ радыкуліту. Але ён менш за ўсё думаў аб сваёй хваробе. Перамагаючы боль, стары ратавальнік кінуўся туды, дзе, акружаныя бушуючымі хвалямі, цярпелі бедныя нашы суграмадзяне...

Радыё-газета без адлегласці. Неўзабаве вестка аб высакародным учынку дзядулі Мазая, дарэчы, перарообленага тарапліўымі рэпарцёрамі на таварыша Мазаеўскага, абляцела ўсю краіну. Ён праславіўся і цяпер увесь час знаходзіцца ў раз'ездах, яго заці галі па нарадах, канферэнцыях і сімпозіумах.

Пачаўся чарговы разліў, і зайчыкі зноў трапілі ў цяжкое становішча. Але іх прыяцеля — дзядулі Мазая (ён жа Мазаеў, Мазаенка, Мазаеўскі) паблізу ўжо не аказалася.

**М. Сямёнаў**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марыі Парфенюк і Тамары Садоўскай з Іванак, Ірэны і Галіны з Трасцянкі і Гені Прахарук з Плёскаў змяшчаем песню п.з.

## „Trzymając się za ręce"

To ostatni już spacer nasz,
Idąc trzymasz za rękę mnie.
Słońce zaszło za stromy dach,
Już nad Wisłą zapada zmierzch.

Pewnie myślą powracasz znów,
Do dalekich rodzinnych stron.
Gdzieś daleko jest Wołgi brzeg
Gdzieś daleko twój stoi dom.

Gasną już ostatnie blaski dnia,
Gdy idziemy razem ty i ja.
Już nad wodą wstają szare mgły,
Gdy idziemy razem ja i ty.

La, la, la...

Zanim ścichnie twych kroków prysk,
Zanim słońce swój zgasi blask.
Spójrz, jak rzeka o zmierzchu lśni,
Słuchaj wiatru co w liściach gra.

Kiedy wrócisz znów nad Wołgi brzeg,
Kiedy będziesz bulwarami szedł.
Może czasem wspomnisz spacer nasz,
Może czasem sobie wspomnisz mnie.

La, la, la...



Атамны век

### ДАРУЙЦЕ

Рэгуліроўшчык спыняе машыну і выгаварвае шафёру:

— Вы звар'яцелі! Несяцеся з хуткасцю сто кіламетраў у супрацьлеглым напрамку, толькі што праехалі чырвонае святло... Вы ведаеце, колькі вам гэта можа каштаваць?

— О, пане, — уступае ў размову пані, сядзеўшая побач з шафёрам, — даруйце яму на гэты раз! Ці ж вы не бачыце, што ён зусім п'яны?

### ЯК ЛЕПШ

Дзіця адказвае бацьку, калі той пытае, як ім лепш вярнуцца дамоў з прагулкі — пяшком ці на аўтобусе:

— Лепш пяшком, толькі ты вазьмі мяне на рукі.

### У ДАНТЫСТА

— Скажыце, доктар, вам заўсёды ўдаецца вырываць зубы без болю?

— На жаль, не! Учора я вывіхнуў сабе руку!

## Курёзы

Чэмпіён у групе сысункоў



Чэмпіёнам свету па даўжыні часу ўтрымлівання на паверхні вады ў групе сысункаў (спаборніцтваў па такім віду і класе дагэтуль не было) стаў 6-месячны Андрэ Аўх. Удзел у спаборніцтвах, якія адбыліся ў Кёльне (ФРГ), узяло 25 наварадкаў. Чэмпіён шмат тыдняў трэніраваўся ў вядомым кёльнскім клубе-плавальнай школцы для сысункоў. Яго час: 8 мінут 45 секунд!

### Клуб ілгуноў

Клуб ілгуноў у Барлінгтон (ЗША) прызнаў першую ўзнагароду за найлепшую хлусню 1968 года. Лаўрэат Отыс Галет расказаў наступную гісторыю: «Наш горад такі малы, што мы вымушаны былі яго павялічыць, каб можна было ў ім паставіць тэлефонную будку».

### Чуласць калегі

У пачатку сваёй музычнай кар'еры Пётр Чайкоўскі жыў у вельмі цяжкіх матэрыяльных умовах. Яго калега з часоў сумеснай працы ў Міністэрстве фінансаў хацеў яму дапамагчы атрымаць пасаду... вартаўніка ў пецярбургскіх прадуктовых складах.

Мадэст Чайкоўскі, брат вялікага кампазітара, так пісаў пра гэта:

«На шчасце, гэтая прапанова не была ажыццёўлена, на шчасце — як нашай музыкі, так і тагачасных спажыўцоў харчовых прадуктаў».




**Многія забываюць, што лесвіца служыць не толькі для пад'ёму, але і для спуску.**